ПРАВААБАРОНЧЫ ВЕСНІК

СНЕЖАНЬ, 2012

ГОМЕЛЬСКІ ПРАВААБАРОНЧЫ ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

ААН рэкамендуе Беларусі змяніць прэзідэнцкі дэкрэт і прызнае яго парушэнні

СТАР. 3

Дзяржава не хоча кампенсаваць маральную шкоду нявінна асуджанаму

СТАР. 4



# Міжнародныя праваабаронцы: «Вызваліце Бяляцкага!»

***Больш за год таму, 24 лістапада 2011 году суд Першамайскага раёну Менску прысудзіў Алеся Бяляцкага, старшыню Праваабарончага цэнтра «Вясна» і віцэ-прэзыдэнта FIDH, да 4,5 гадоў пазбаўленьня волі.***

## Бяляцкі атрымаў прэмію Пэтры Кэлі

**Раней Алесь Бяляцкі адмовіўся ад грашовай складніку прэміі у 10 000 еўра. Ён папрасіў накіраваць гэтыя грошы на падтрымку праваабарончай дзейнасьці ў Беларусі.**

**Цырымонія адбылася ў Бэрліне. Фундацыя імя Генрыха Бёля ўзнагародзіла віцэ-прэзыдэнта Міжнароднай фэдэрацыі правоў чалавека, праваабаронцу, палітвязьня Алеся Бяляцкага прэміяй Пэтры Кэлі ў ліпені.**

**Прэмія Пэтры Кэлі прысуджаецца з 1998 году асобам ці групам асобаў за актыўны ўдзел у барацьбе за захаваньне правоў чалавека, негвалтоўнае вырашэньне канфліктаў і абарону навакольнага асяродзьдзя. Прэмія была заснаваная ў памяць вядомай палітычнай дзячкі Пэтры Кэлі (1947 - 1992).**

**Радыё Рацыя**

Паводле прысуду, ён павінен адбываць пакараньне ў калёніі ўзмоцненага рэжыму, яго маёмасьць, у тым ліку менскі офіс «Вясны», афармлены на яго імя, канфіскуецца, і ён павінен заплаціць штраф у памеры 757.526.717 беларускіх рублёў (прыблізна 70000 эўра). 24 студзеня 2012 году Менскі гарадзкі суд пакінуў у сіле гэты прысуд, не задаволіўшы касацыйнай скаргі, і 28 лютага Алесь Бяляцкі быў пераведзены ў калёнію № 2 Бабруйску.

З гэтай нагоды Абсэрваторыя па абароне правоў праваабаронцаў, сумесная праграма Міжнароднай Фэдэрацыі за правы Чалавека (FIDH) і Сусьветнай арганізацыі супраць катаваньняў, выказала занепакоенасьць лёсам Бяляцкага і перасьледам супрацоўнікаў праваабарончага цэнтру «Вясна», а таксама іншых праваабаронцаў Беларусі. Абсэрваторыя па абароне правоў праваабаронцаў нагадвае, што Бяляцкі быў арыштаваны 4 жніўня 2011 году супрацоўнікамі фінансавай міліцыі й абвінавачаны ва ўтойваньні даходаў у асабліва буйным памеры, што было расцэнена як палітычны перасьлед.

З тых часоў ён падвергнуўся шматлікім дысцыплінарным спагнаньням з боку турэмнай адміністрацыі, якія прывялі ў тым ліку да скарачэньня колькасьці сродкаў, якія яму дазволена атрымліваць на свой рахунак у калёніі, адмовы ў спатканьнях і ў атрыманьні пасылак. Іншым зьняволеным калёніі забаронена ўступаць у кантакт з Алесем Бяляцкім, што яшчэ больш узмацняе яго ізаляцыю і ўзровень псыхалягічнага ціску.

Абсэрваторыя зазначае, што прысуд Алесю Бяляцкаму быў адназначна накіраваны супраць яго дзейнасьці як праваабаронцы і супраць Праваабарончага цэнтру «Вясна», і што ў пачатку ліпеня 2012 году суд Партызанскага раёну Менску пацьвердзіў рашэньні аб канфіскацыі офісу. 17 лістапада Натальля Пінчук, жонка Алеся Бяляцкага, атрымала афіцыйнае апавяшчэньне, што 26 лістапада «Вясна» будзе выселена з офісу, які займала апошнія 12 гадоў.

Абсэрваторыя зноў рэзка асуджае факты перасьледу і незаконнага ўтрыманьня пад вартай Алеся Бяляцкага і выказвае трывогу ў сувязі з хуткім высяленьнем ПЦ «Вясна», які больш за 16 гадоў аказвае неацэнную падтрымку ахвярам парушэньняў правоў чалавека:

«Відавочна, што меры, якія рыхтуюцца, ¡ª чарговая праява бясконцай кампаніі паклёпу і перасьледаў з боку ўладаў Беларусі супраць „Вясны". У сувязі з гэтым Абсэрваторыя заклікае беларускія ўлады да неадкладнага і безумоўнага вызваленьня Алеся Бяляцкага і да спыненьня перасьледу ПЦ „Вясна", бо гэтыя дзеяньні відавочным чынам накіраваныя на перашкоду іх законнай праваабарончай дзейнасьці».

Абсэрваторыя зноў заклікае ўлады Беларусі спыніць рэпрэсіі супраць праваабаронцаў і праваабарончых арганізацый краіны ў адпаведнасьці з Дэклярацыяй аб праваабаронцах ААН, Усеагульнай дэклярацыяй правоў чалавека і іншымі праваабарончымі мэханізмамі, ратыфікаванымі Беларусьсю.



# Amnesty International: канфіскацыя офіса «Вясны» з'яўляецца абуральным парушэннем міжнародных абавязацельстваў Беларусі

«Канфіскацыя офіса праваабарончага цэнтра "Вясна " з'яўляецца абуральным парушэннем міжнародных абавязацельстваў Беларусі ў галіне правоў чалавека, у тым ліку права на свабоду асацыяцыяў», - заявіў намеснік дырэктара праграм праваабарончай арганізацыі "Міжнародная амністыя" для Еўропы і Цэнтральнай Азіі Давід Дыяс-Жаж'е.

Яго заява стала рэакцыяй на высяленне праваабаронцаў «Вясны» з мінскага офіса, у якім яны працавалі апошнія 12 гадоў.

«Права на аб'яднанне - асноўнае права чалавека і краевугольны камень любога дэмакратычнага грамадства. Беларуская Канстытуцыя гарантуе кожнаму права на свабоду сходаў, але штодня мы бачым, што права на свабоду асацыяцыяў, сходаў і выказванне меркаванняў парушаюцца ў Беларусі », - заявіў Дыяс-Жожье.

Намеснік дырэктара праграм "Міжнароднай амністыі" адзначыў, што канфіскацыя офіса «Вясны» адбылася «на фоне пагаршэння ўмоў для тых, хто займаецца абаронай правоў чалавека ў Беларусі».

Ён таксама паведаміў, што 10 кастрычніка беларускія ўлады ўпершыню з 1990 года адмовілі ў выдачы ўязной візы прадстаўніку гэтай праваабарончай арганізацыі, не патлумачыўшы прычыну адмовы. «З чаго можна зрабіць выснову, што рашэнне было палітычна матываваным», - лічыць Дыяс-Жаж'е.



"Міжнародная амністыя" нагадвае, што кіраўнік праваабарончага цэнтра "Вясна" Алесь Бяляцкі, віцэ-прэзідэнт Міжнароднай федэрацыі за правы чалавека, які 24 лістапада 2011 года быў асуджаны да 4,5 гадоў пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці, прызнаны вязнем сумлення.

Нагадаем, раніцай 26 лістапада праваабаронцы пазбаўленага рэгістрацыі цэнтру «Вясна» пакінулі свой офіс, канфіскаваны дзяржавай. Кватэра належала Алесю Бяляцкаму, асуджанаму па абвінавачванні ва ўхіленні ад выплаты падаткаў. Як паведаміў намеснік кіраўніка "Вясны" Валянцін Стэфановіч, за час існавання офіса яго наведалі тысячы грамадзян, якім аказвалася прававая дапамога, збіраліся сродкі для падтрымкі палітвязняў, праводзіліся прэс-канферэнцыі, трэнінгі і семінары. «Мы заўсёды ажыццяўлялі сваю дзейнасць адкрыта, нягледзячы на адсутнасць рэгістрацыі з 2003 года і звязаную з гэтым пагрозу пераследу», - адзначыў праваабаронца.

"Рэпрэсіі супраць кіраўніка і сябраў праваабарончага цэнтра, а таксама канфіскацыя маёмасці не спыняць нашу працу, мы не згорнем ні аднаго з напрамкаў легітымнай дзейнасці арганізацыі па абароне правоў чалавека, - падкрэсліў Стэфановіч. - Мы лічым, што наша дзейнасць з'яўляецца легітымнай, яна мае легітымныя мэты па абароне правоў чалавека. Не наша віна ў тым, што дзяржава не можа і не хоча стварыць умовы для такой дзейнасці і выканаць свае абавязкі ў галіне свабоды асацыяцыяў".

Пакуль грамадская прыёмная "Вясны" часова будзе працаваць у офісе руху "За Свабоду".

**Беларускія навіны**

# Гомельскі выканкам супраць дэмакратаў, лік 150:0

Гомельскі гарвыканкам за апошнія сем гадоў не дазволіў дэмакратычным актывістам правесьці ніводнага з больш як 150 заяўленых пікетаў і мітынгаў. Апошні раз гарвыканкам забараніў прафсаюзу працаўнікоў радыёэлектроннай прамысловасьці (РЭП) правесьці пікет 7 кастрычніка, у сусьветны Дзень дзеяньняў за годную працу. Прафсаюз хацеў пікетам прыцягнуць увагу да сацыяльна-эканамічнай сытуацыі ў рэгіёне.

Прадстаўнік прафсаюзу Віктар Казлоў падаў скаргу на гарвыканкам у суд. 30 кастрычніка судзьдзя Цэнтральнага раёну Гомеля Жана Андрэйчык адхіліла гэтую скаргу.

Прававы інспэктар прафсаюзу РЭП у Гомельскай вобласьці, юрыст Леанід Судаленка лічыць, што Беларусь ігнаруе рашэньні міжнародных арганізацыяў: «Нядаўна Камітэт ААН па правах чалавека па нашай скарзе прыняў рашэньне, паводле якога Беларусь ня толькі парушае правы сваіх грамадзян на свабоду правядзеньня мірных сходаў, але яшчэ й абавязана зьмяніць нацыянальнае заканадаўства на гэты конт, якое й вядзе да парушэньня права кожнага беларуса на свабоду выказваньня сваіх меркаваньняў і мірных сходаў».

**Радыё Свабода**

# ААН парэкамендавала Беларусі змяніць прэзідэнцкі дэкрэт

*Гомельская ліквідаваная арганізацыя “Грамадзянскія ініцыятывы” 7 гадоў дамагалася справядлівасці ў Камітэце па правах чалавека ААН.*

Гомельскае аб'яднанне “Грамадзянскія ініцыятывы”, якім кіраваў Карняенка, займалася назіраннем за прэзідэнцкімі выбарамі ў 2001 годзе. Падчас перавыбарчай кампаніі ўлады канфіскавалі ў іх аргтэхніку, а потым і ўвогуле ліквідавалі грамадскае аб'яднанне, абвінаваціўшы ў тым, што яно фінансуецца Захадам. Кіраўніку арганізацыі Віктару Карняенку далі буйны штраф. У выніку, незалежнае назіранне за выбарамі было сарванае.
Віктар Карняенка праз абласны і Вярхоўны суды спрабаваў аспрэчыць рашэнне аб ліквідацыі аб'яднання і вярнуць рэгістрацыю, але ўсё безвынікова. Тады старшыня ліквідаванай арганізацыі звярнуўся па дапамогу да праваабаронцаў у “Цэнтр стратэгічных цяжбаў”. Там параілі звярнуцца ў Камітэт па правах чалавека пры ААН, узгадвае праваабаронца Леанід Судаленка:

“З нашай дапамогай ён [Віктар Карняенка] звярнуўся ў Камітэт ААН па правах чалавека. Дзе паставіў пытанне аб тым, што ў Беларусі парушаюцца яго правы на свабоду аб'яднанняў і асацыяцыяй. І паколькі грамадскае аб'яднанне назірала за выбарамі, то таксама былі парушаныя правы на доступ да ўдзелу ў дзяржаўным кіраванні”.

Камітэт па правах чалавека толькі сёлета разгледзеў справу Віктара Карняенкі і прызнаў парушэнне беларускімі ўладамі правоў сваіх грамадзян на свабоду аб'яднанняў і асацыяцый, на свабоду распаўсюджання інфармацыі і на ўдзел у дзяржаўным кіраванні праз незалежнае назіранне. Акрамя таго, Камітэт рэкамендаваў Беларусі змяніць дэкрэт Прэзідэнта аб замежнай дапамозе. Менавіта паводле гэтага дэкрэту КДБ канфіскаваў камп'ютары “Грамадзянскай ініцыятывы”. Праваабаронца Леанід Судаленка лічыць, што Камітэт па правах чалавека пры ААН слушна прыняў бок грамадзянскай супольнасці ў Беларусі:

“На гэтым прыкладзе мы бачым, што грамадзянін атрымаў не толькі дапамогу, але дамогся таго, што дэкрэт Прэзідэнта аб Замежнай бязвыплатнай дапамозе быў прызнаны неадпавядаючым міжнародным абавязкам нашай краіны, паводле Міжнароднага пакту аб грамадзянскіх і палітычных правах”.

Атрымліваецца, што Камітэт па правах чалавека ААН на працягу 7 гадоў разглядаў скаргу па справе “Грамадзянскай ініцятывы”. Але гэта звычайная справа, лічыць Леанід Судаленка. Часам разгляд скаргаў можа ісці і хутчэй, так, скаргу руху “За Свабоду” пра парушэнне Беларуссю Міжнароднага пакту аб правах грамадзянаў на свабоду выказвання меркаванняў і распаўсюджання інфармацыі Камітэт разглядаў усяго 2 гады.

**Еўрарадыё**



# Гамяльчук дамогся адмены штрафу праз ААН

*Гамяльчук Уладзімір Шумілін распаўсюджваў у 2008 годзе лістоўкі пра сустрэчу былога кандыдата ў прэзідэнты Аляксандра Мілінкевіча з гараджанамі. За гэта Уладзіміра затрымала міліцыя, а суд аштрафаваў яго за арганізацыю масавага мерапрыемства на паўтысячы долараў. Расказвае праваабаронца Леанід Судаленка:*
*“Паводле беларускага заканадаўства забараняецца распаўсюджваць інфармацыю пра мерапрыемствы, якія не санкцыянаваныя ўладай, ці на якія яшчэ дазвол уладаў не атрыманы”.*
*Каб адстаяць свае правы, Уладзімір Шумілін звярнуўся ў “Цэнтр стратэгічнай цяжбы”. Праваабаронца Леанід Судаленка дапамог мясцоваму актывісту прайсці ўсе судовыя інстанцыі ў Беларусі, пачынаючы ад раённага суда і заканчваючы Вярхоўным Судом. Аднак нават вышэйшая інстанцыя не адмяніла прысуд. Таму гамяльчук вырашыў звярнуцца ў Камітэт па правах чалавека пры ААН, працягвае праваабаронца Леанід Судаленка:*
*“На жаль, унутры краіны абараніць правы Шуміліна не атрымалася. Мы звярнуліся са скаргай у Камітэт па правах чалавека ААН, і летам бягучага году па скарзе было прынятае рашэнне, што гэтым пераследам дзяржава парушыла права грамадзяніна Шуміліна на свабоду распаўсюджання інфармацыі і правядзення мірных сходаў”.*
*Камітэт па правах чалавека ААН таксама рэкамендаваў дзяржаве выплаціць усе панесеныя Шуміліным матэрыяльныя выдаткі. Беларускія ўлады таксама павінны былі цягам 90 дзён апублікаваць гэтае рашэнне ў дзяржаўных СМІ і давесці да Камітэта ААН інфармацыю пра выкананне рэкамендацый. Аднак самым галоўным дасягненнем Уладзіміра Шуміліна можна лічыць тое, што міжнародныя эксперты рэкамендавалі ўраду Беларусі змяніць нормы нацыянальнага заканадаўства аб масавых мерапрыемствах і прывесці іх у адпаведнасць з міжнародным Пактам аб грамадзянскіх і палітычных правах, які Беларусь у свой час падпісала.*

**Еўрарадыё**

# **Гомель:** «Справядлівы свет» шукае абароны ў ААН

*Старшыня Гомельскай абласной арганізацыі Беларускай партыі левых «Справядлівы свет» Уладзімір Сякерка вычарпаў усе ўнутраныя сродкі прававой абароны па абскарджанні рашэння Гомельскага гарвыканкама аб забароне ў абласным цэнтры 1 мая 2012 года мітынгу. Беларускія левыя звяртаюцца са скаргай у Камітэт ААН па правах чалавека, у якой ставяць пытанне аб парушэнні іх права на свабоду правядзення мірнага сходу і на свабоду выказвання свайго меркавання.*

Цяпер беларускаму ўраду прыйдзецца шукаць адказ на пытанне, чаму ў краіне за арганізацыю мірных сходаў грамадзян трэба плаціць міліцыі, медыцыне і санітарнай ачыстцы горада, што па мерках міжнароднага права з'яўляецца нонсэнсам. Ураду таксама прыйдзецца адказаць на пытанне, чаму ў другім па велічыні горадзе ўстаноўлена адно адзінае месца для правядзення сходаў грамадзян.Чаму парушаецца прынцып роўнасці закона для ўсіх, калі ўлада праводзіць свае сходы калі хоча і як хоча, а ўсе службы працуюць для іх бясплатна.

Вядома, што Венецыянская камісія прызнала нацыянальны закон «Аб масавых мерапрыемствах» не адпавядаючым міжнародным абавязацельствам Беларусі. У нядаўна разгледжаных Камітэтам ААН па правах чалавека справах па скаргах беларускіх грамадзян (Шумілін супраць Беларусі, Левінаў супраць Беларусі) Камітэт абавязаў урад змяніць не толькі сам нацыянальны закон, але і практыку яго прымянення з тым, каб выключыць далейшыя парушэнні правоў беларускіх грамадзян на свабоду мірных сходаў.
Тым не менш, беларускі ўрад ўпарта стаіць на сваім - права «Справядлівага свету» не парушаныя, паколькі Гомельскі гарвыканкам дзейнічаў у адпаведнасці з заканадаўствам. Каментуючы аргументы партыйцаў аб парушэнні іх правоў, гарантаваных Міжнародным пактам аб грамадзянскіх і палітычных правах Вярхоўны суд звярнуў увагу, што забарона гэтаму дакументу не супярэчыць.

У гэтай сітуацыі ўзнікае адно пытанне - калі не супярэчыць, тады чаму міжнародныя эксперты лічаць інакш і колькі раз павінен паўтараць Камітэт ААН па правах чалавека, каб яго словы пачулі беларускія чыноўнікі, закліканыя між іншым няўхільна стаяць на абароне правоў і свабод беларускіх грамадзян?




# Дзяржава не хоча кампенсаваць нявінна асуджанаму гамяльчаніну маральную шкоду

**На рашэнне суда Чыгуначнага раёну Гомеля аб кампенсацыі Яўгену Дзедушкіну маральнай шкоды ў памеры 50 мільёнаў рублёў пададзены тры касацыйныя скаргі.**

Нагадаем, 23 кастрычніка суд Чыгуначнага раёна Гомеля вынес рашэнне па справе былога ўрача-псіхіятра. Згодна з пастановай суда, дзяржава павінна выплаціць яму 50 мільёнаў рублёў ¨С грашовую кампенсацыю маральнай шкоды, атрыманай у выніку незаконнага асуджэння і адбыцця пакарання.

31 кастрычніка пракуратура Чыгуначнага раёна Гомеля падала пратэст на рашэнне суда аб кампенсацыі маральнай шкоды Яўгену Дзедушкіну, бо лічыць, што такі памер з'яўляецца відавочна завышаным. Як напісана ў пратэсце, «факт прычынення істцу маральнай шкоды не аспрэчваецца». «Але памер кампенсацыі маральнай шкоды шкоды павінен вызначацца судом у залежнасці ад характару прычыненых пацярпеламу фізічных і маральных пакут. Пры вызначэнні памеру кампенсацыі шкоды павінны ўлічвацца патрабаванні разумнасці і справядлівасці. Памер матэрыяльнага пакрыцця маральнай шкоды падлягае памяншэнню да 30 мільёнаў рублёў», - выказалася ў пратэсце пракуратура.

У сваю чаргу, Міністэрства фінансаў нагадвае аб тым, што «павінна ўлічвацца тая акалічнасць, што пакрыццё будзе рабіцца за кошт сродкаў рэспубліканскага бюджэту, у якім не прадугледжаны гэты від выдаткаў». Мінфін таксама просіць знізіць памер грашовай кампенсацыі маральнай шкоды, але не называе суму.
Сам Яўген Дзедушкін 12 лістапада таксама падаў пратэст на рашэнне суда і лічыць, што спагнаная судом сума кампенсацыі не адпавядае тым маральным пакутам, якія ён перанёс, і з'яўляецца несправядлівай. Таму ісцец просіць змяніць суму кампенсацыі ў бок істотнага павелічэння: да 500 мільёнаў рублёў.

Дагэтуль не атрымаў Яўген Дзедушкін і кампенсацыю матэрыяльнай шкоды ў памеры 20 мільёнаў. рублёў. Выканаўчы ліст аб спагнанні гэтай сумы быў высланы Гомельскім абласным судом у суд Маскоўскага раёна Мінска (па месцы размяшчэння Казны Рэспублікі Беларусь) яшчэ 11 кастрычніка. Аднак з тых часоў з былым абвінавачваемым не звязваліся з нагоды выдачы грошай. Ён пачаў тэлефанаваць па розных інстанцыях і высветліў, што з Мінска ліст па памылцы накіравалі ў Мазыр. З-за бюракратычных памылак зацягваецца спагнанне і гэтай кампенсацыі.

Праваабарончы весьнік. Гомельскі праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь.
Распаўсюджваецца бясплатна. Наклад: 299 асобнікаў.